Нягледзячы на некаторыя палажэньні Статута ААН ідэя нейтральнасці ў разгар Халоднай вайны набыла новую сілу ў сувязі з утварэннем Руху недалучэньня (1961). Не жадаючы прымаць бок заходняга ці савецкага блоку шматлікія краіны, уключна з такімі рэгіянальнымі краінамі-лідэрамі, як Індыя, Інданэзія, Егіпет, Югаславія, заявілі аб правядзеньні палітыкі недалучэньня. Такая палітыка прадугледжвае ўзаемную павагу да тэрытарыяльнай цэласнасці і суверэнітэту, ненападу, неўмяшаньне ва ўнутраныя справы, роўнасць і ўзаемную выгаду, мірнае суіснаваньне. На сёняшні дзень Рух недалучэньня налічвае 120 краін. Сябрам гэтай арганізацыі з'яўляецца і Беларусь – адзіная еўрапейская краіна (1998).

Здавалася, што пасля падпісаньня Хельсінкскага Акта аб непарушнасці межаў у Еўропе (1975), падзеньня Берлінскай сцяны (1990), развалу СССР (1991) і ўтварэньня Арганізацыі па Бяспецы і Кааперацыі ў Еўропе (OSCE, 1995), Халодная вайна адыйшла назаўсёды. Задачамі OSCE з’яўляюцца кантроль над узбраеньнямі, межамі, тэрарызмам, папярэджаньне канфліктаў.

У 2009 годзе для краін ЕС была дапрацавана Палітыка еўрапейскай бяспекі і абароны (Common Security and Defense Policy, CSDP), якая ўключае ўзаемныя абавязкі па ўзаемнай абароне краінаў, сябраў ЕС пры нападзе агрэсара і якая не супярэчыць палажэньням аб калектыўнай абароне Статута ААН (Арт. 51). Адпаведна з гэтым, палітыка нейтральнасці, якую праводзілі падчас Халоднай вайны традыцыйна нейтральныя краіны, якія не з’яўляюцца сябрамі НАТА (Аўстрыя, Ірландыя, Кіпр, Мальта, Фінляндыя, Швецыя), пасля таго як яны ўступілі ў ЕС, мяняецца ў бок падключэньня ў сістэму рэгіянальнай еўрапейскай бяспекі.[10,11] Далучыўшыся да сістэмы еўрапейскай бяспекі гэтыя краіны часткова згубілі “нявіннасць” нейтральнасці, бо прынялі на сябе абавязкі (не ўласьцівыя па сваёй прыродзе нейтральнай палітыцы) ужываць усе сродкі, уключаючы ваенныя, супраць магчымага агрэсара пры абароне любой з краін, якія ўваходзяць у такую сістэму бяспекі. Хаця трэба адзначыць, што не ва ўсіх “нейтральных” краінах такія зьмены знаходзяць падтрымку сярод насельніцтва. Напрыклад, рашэньні ўрадаў

---

[10] K. Ifantis, K. Serbos OSCE: A Natural Home for Europe’s Neutrals. International Journal of Humanities and Social Sciences. 2013, v.3, 21-222, p.219.

[11] K. Devine The Ethos and Elements of Irish Neutrality: 18$^{th}$ – 21$^{st}$ Centuries.In “Neutrality in the 21th Century – Lessons for Serbia”.ISAC Fond, 2013, p.67-80.

Ірдандыі мяняць палітыку нейтральнасці на палітыку “салідарнасці ў Еўропе” прымаюцца з цяжкасцю.[12]

Такім чынам, для многіх нейтральных краін, разуменне нейтральнасці істотна мяняецца (выключэньне мае хіба толькі Швейцарыя). У той жа час, не-нейтральныя краіны ЕС ставяцца з павагай да былой нейтральнасці гэтых краін і да іх магчымай інакшай пазіцыі. Тым больш, што некаторымі аўтарамі нейтральнасць разглядаецца як другая па значнасці магчымасць для забяспячэньня нацыянальнай бяспекі, пасля сістэмы калектыўнай бяспекі і міжнароднай кааперацыі ў падтрымцы міру.[13]

Як будзе развівацца сістэма калектыўнай еўрапескай бяспекі недастаткова ясна. Дыскусіі аб стварэньні агульных еўрапейскіх узброеных сіл, якія вядуцца цягам апошніх гадоў, могуць адыйсці ў мінулае. На пачатку сьнежня 2016 г., на сустрэчы міністраў замежных краін, удзельнікаў НАТА, ідэя аб стварэньні асобнага цэнтру для кіраваньня еўрапейскімі ваеннымі сіламі не знайшла падтрымкі. З улікам апошніх заяў выбранага прэзідэнта ЗША аб неабходнасці перагляду ўзаемадносін і фінансаваньня ў НАТА, вяртаньне краін не-сяброў НАТА да ідэй нейтральнасці не выключаецца.

Пасля падзей на Украіне, анексіі Крыма, пачатку гібрыднай вайны ў Данбасе і санкцый, уведзеных краінамі ЕС і ЗША ў адносінах да Расіі, сьвет стаіць перад пагрозай новых войн (разам з тымі, што ўжо працягваюцца) ці перад новым перадзелам сьвету. У такіх умовах яшчэ больш складанай утвараецца сітуацыя для краін, якія адносна нядаўна сталі прыхільнымі да ідэй нейтральнасці (Беларусь, 1994; Украіна, 1990) ці заявілі аб сваёй нейтральнасці (Малдова, 1995; Туркменістан, 1995; Сербія, 2007; Манголія, 2015). Відаць, невыпадкова, што Расія выяўляе свае геапалітычныя інтарэсы да большасці з гэтых краін.

Такім чынам, можна заключыць, што канцэпцыя нейтральнасці, хоць і нерэалізаваная да канца ў чыстым выглядзе, да гэтага часу зьберагае сваю прывабнасць для народаў малых краін як у Еўропе, так і ў цэлым свеце. Міжнародныя законы, якія рэгулююць да гэтага часу адносіны паміж нейтральнымі і ваюючымі краінамі былі прыняты на Гаагскіх канферэнцыях (1899 і 1907), а

[12] K. M.Devine Stretching the IR Theoretical Spectrum on Irish Neutrality: A Critical Social Constructivist Framework. International Political Science Review. 2008, v. 29, #1, p. 471.

[13] Ove Bring The concept of Neutrality: Origins and Challenges. From the Peace of Westphalia to the European Union.In “Neutrality in the 21th Century – Lessons for Serbia”. ISAC Fond, 2013, p.26.

імкненне малых краін быць нейтральнымі у той ці іншай ступені паважаецца ў Еўропе і сёньня. Ідэя нейтральнасці прадыктаваны жаданьнем малых народаў вырвацца з пад ціску Вялікіх дзяржаў і узначальваемых імі блокаў. Агрэсіўная геапалітыка Вялікіх дзяржаў знаходзіцца ў супярэчнасці з жаданнямі малых народаў быць свабоднымі, незалежнымі і жыць у міры. Нягледзячы на стварэньне сістэм калектыўнай бяспекі (Вестфаль, 1648; Вена, 1815; Ліга Нацый, 1919-1920; ААН, 1945; Арганізацыя па Бяспецы і Кааперацыі ў Еўропе, 1995), якія ў значнай ступені зьніжаюць і нават адмяняюць рэалізацыю палітыкі нейтральнасці, можна думаць, што яе патэнцыял яшчэ далёка нерэалізаваны, асабліва для краін, якія не з'яўляюцца сябрамі ЕС. Аб гэтым сьведчыць як стварэньне Руху недалучэння, так і адносна нядаўнія заявы шэрагу краін аб сваёй нейтральнасці.

**Piotra Murzionak: Neutrality and Security of Small Countries**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", December 2016, issue 16, pp. 15-23)*

The concept of neutrality, although unrealized *per se* until the end, still keeps its appeal to the peoples of small countries both in Europe and in the whole world. International laws governing until now the relations between the neutral and the belligerent countries were adopted by the Hague Conferences (1899 and 1907), and the desire of small states to be neutral in one degree or another is respected in Europe today. The idea of neutrality is dictated by the desire of small nations to break the pressure of Great states to ensure their safety. Aggressive geopolitics of the Great States is in conflict with the wishes of small nations to be free, independent and live in peace. Despite the creation of the collective security systems (Westphal, 1648; Vienna, 1815, the League of Nations, 1919-1920; United Nations, 1945; Organization for Security and Cooperation in Europe, 1995), which greatly reduce or even cancel the implementation of the policy of neutrality, it is thought that its potential is far from being realized, especially for countries that are not EU members. This is evidenced as by the creation of the Non-Aligned Movement as by the recent declarations by a number of countries about their neutrality.

## Пётра Мурзёнак: Нейтральнасць Беларусі як пераход да глабальнай сістэмы калектыўнай бяспекі

**Уступ.** Нейтральнасць Беларусі разглядаецца як адна з асноўных умоў рэалізацыі "Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі". Стан нейтральнасці, набыты з падтрымкай грамадства праз рэферэндум, можа забясьпечыць прававыя і маральныя падставы для выйсця краіны з агрэсіўных ваенных блокаў і недалучэньня да іншых і ў той жа час адкрые шлях да ўступленьня ў глабальную сістэму(ы) калектыўнай бяспекі. Нягледзячы на крытыку рэалістаў аб утапічнасці ідэі нейтральнасці для Беларусі, прыняцьце стану нейтральнасці можа быць паважным і магчыма адзіным крокам у маральным і прававым полі, каб вырвацца з цяжкай каланіяльнай залежнасьці ад Расіі. Відавочна, што для правядзеньня такой палітыкі неабходна як палітычнае рашэньне самой суверэннай дзяржавы, так і зьмены палітычнага клімату ў цэлым сьвеце. Нейтральнасць\узброеная нейтральнасць для Беларусі грунтуецца на міралюбівым настроі беларускага насельніцтва, на юрыдычнай норме аб імкненьні быць нейтральнай дзяржавай (Канстытуцыя РБ, Арт. 18), на сяброўстве ў Руху недалучэньня і ААН, на рознанакіраванасці беларускай эканомікі, і на прыкладах іншых краін, якія хочуць вызваліцца з-пад ціску Вялікіх краін, дыктуючых ім свае умовы.

Зберажэньне незалежнасці і суверэнітэту малых краін заўжды было значнай праблемай, вырашэньне якой ў большасці выпадкаў залежыць ад палітычнай волі і пазіцыі Вялікіх дзяржаў і часта суправаджаецца стварэньнем саюзаў\альянсаў з Вялікімі дзяржавамі або каланізацыяй малых краін.

На працягу апошніх стагоддзяў спробы ўрэгуляваць мірнае суіснаваньне дзяржаў і народаў, уключна з абмеркаваньнем пытаньняў нейтральнасці, заўжды рабілася пасля працяжных ваенных канфліктаў, якія прыносілі мноства ахвяраў (Вестфалія, 1648; Вена, 1815; Ліга Нацый, 1919-1920; ААН, 1945; АБСЕ, 1995). Тым не менш, з гісторыі відаць, што заключэньне падобных пагадненьняў не перашкаджала пачынаць новыя ваенныя канфлікты. Здаецца, што Халодная вайна, якая, як лічылі, скончылася з развалам Берлінскай сцяны, адраджаецца зноў і падзяляе сьвет на часткі. Зноў малыя краіны мусяць далучацца да глабальных блокаў ці рэгіянальных сістэм бяспекі, якія б гарантавалі ім больш спакойнае жыццё.

Мір зараз з'яўляецца сведкам чарговай спробы яго перадзелу насуперак існуючаму міжнароднаму праву – дастакова прывесці толькі еўрапейскія прыклады: грамадзянская вайна ў Югаславіі і падзел гэтай краіны, захоп Расіяй тэрыторыі Грузіі (Асеція, Абхазія) і Украіны (Крым, Данбас). Тыя межы і законы, якія былі ўсталяваны пасля 2-й сусьветнай вайны і зацьверджаны Хельсінскім Актам парушаны. Супраць краін-агрэсараў прымаюцца санкцыі, аднак, гэта пакуль не шмат мяняла паводзіны краін-агрэсараў і ў першую чаргу таму, што ніхто не адважваецца прымяніць да ядзерных краін, якія б там ні былі ваенныя санкцыі.

Такім чынам, сьвет стаіць на парозе чарговых патрасеньняў, якія могуць выліцца ў ваенныя канфлікты ці ў чарговыя пагадненьні паміж Вялікімі дзяржавамі пры новым передзеле міра.

Дзе апыніцца краіна Беларусь і як утрымаць суверэнітэт і дзяржаўную бясьпеку пры такім сцэнары? Варыянтаў для Беларусі не так і многа:

- заставацца пад абаронай Расіі,
- рэалізаваць лозунг "Беларусь – у Еўропу",
- спрабаваць праводзіць палітыку сапраўднага нейтралітэта.

Расійскі патранаж

Расія часова забяспечвае ядзерны парасон для Беларусі, але даверу да Расіі як гаранту незалежнасці і суверэнітэту беларускай краіны абсалютна няма. Яскравы прыклад таму Украіна. Можна дадаць таксама ўтварэньне новых расійскіх анклаваў – Абхазіі, Паўднёвай Асеціі, Прыднястроўя – на тэрыторыях, якія яшчэ нядаўна ўваходзілі ў Расійскую імперыю і ў СССР.

Фармальна, з'яўляючыся сябрам ААН і Руху недалучэньня, Беларусь мусіла б удзельнічаць у санкцыях супраць суседа-агрэсара нараўне з іншымі краінамі, якія прытрымліваюцца рашэньняў ААН. Аднак, парадокс у тым, што Беларусь знаходзіцца ў цесным эканамічным і ваенным альянсе з Расіяй, краінай-агрэсарам. На жаль, мы жывём не на высьпе, маем з Расіяй працяглыя межы (1200 км) і значныя эканамічныя стасункі (агульны гандаль з Расіяй вагаецца ў межах 40-50%). Але з гэтым яшчэ можна было б жыць. Што нельга трываць, дык гэта знаходзіцца ў ваенным блоку з агрэсарам, удзельнічаць у Арганізацыі дагавора аб калектыўнай бясьпецы (АДКБ), мець агульную з Расіяй супрацьпаветраную абарону на заходнім накірунку і вайсковыя расійскія базы на тэрыторыі краіны, праводзіць штогадовыя сумесныя вайсковыя вучэньні.

Расія ніколі не лічылася з лёсам маленькіх народаў, не здольнымі "паклапаціцца" аб сабе, а расійская сквапная каланіяльная палітыка захопу новых тэрыторый услаўлася паэтамі і пісьменьнікамі на працягу апошніх двух стагоддзяў. Да гэтага прыклаліся Пушкін ("Путешествие в Арзрум во время похода 1829 года", "Кавказкий пленник"), Лермантаў ("Герой нашего времени"), Талстой ("Вайна і Мір"), Салжаніцын ("Раковый корпус"), Распуцін ("Сибирь, Сибирь"), і шмат хто яшчэ з расійскага пісьменьніцкага ў асноўным русафільскага асяроддзя (Е. Томсан,

2009).[14] Усё гэта вылілася ў стварэньне таямнічага, асаблівага вобразу і шляху Расіі, незразумелых да сёньня Захадам. Прымаецца як дадзенае, што Расія праз сваю “выпеставаную” веліч мае асаблівыя правы на сваіх суседзяў і на іншыя краіны, да якіх яна адносіцца як да патэнцыйных калоній. Відавочна, што для таго, каб такая вялікадзяржаўная ментальнасць зьмянілася, патрабуецца не адно стагоддзе.

Расія напала на блізкую нам гістарычна і ментальна украінскую дзяржаву. Ці магчыма Беларусі і надалей знаходзіцца ў альянсе з Расіяй і заўжды адчуваць над сваёй галавой небясьпеку напаткаць такіж самы лёс як Украіна? Відавочна, што трэба знайсці нейкія іншыя шляхі, каб дыстанцыявацца ад агрэсара як мага далей. З гэтага пункту гледжаньня, набыццё стану нейтральнасці можа быць тым шляхам і карыснай магчымасцю, які, на гэты час, мае перавагу перад “шляхам у Еўропу”.

“Беларусь - у Еўропу”

Выбар шляху для Беларусі ў Еўропу выглядае вельмі натуральным, калі прыгадаць гістарычную прыналежнасць беларускай нацыі да іншых еўрапейскіх нацый і сёняшнюю тэндэнцыю развіцьця краіны ў еўрапейскім стылі. У той жа час, існуе шэраг абмежаваньняў, якія не дазваляюць сёньня цьвердзіць, што канчатковае станаўленьне беларускай нацыі і шлях у Еўропу будзе лёгкім і хуткім.[15] Адзначым толькі, што некаторыя еўрапейскія краіны, якія доўгі час праводзілі палітыку нейтральнасці - Аўстрыя, Ірландыя, Швецыя - уступілі ў Еўрасаюз (ЕС) адносна нядаўна (1995). Але справа не толькі ў змене настрояў грамадства ў гэтых краінах, а ў механізмах і правілах неабходных для атрымання сяброўства ў ЕС. На думку Т. Снайдэра, для рэалізацыі такой мэты Беларусі можа спатрэбіцца некалькі дзесяткаў гадоў.[16] Вельмі магчыма, што шлях Беларусі ў Еўропу пройдзе праз перыяд нейтральнасці.

Нейтральнасць Беларусі

Пад нейтральнасцю дзяржавы разумеецца міралюбівая палітыка ў адносінах да сваіх суседзяў, якая вызачаецца ў сваю чаргу ментальнасцю людзей, якія складаюць грамадства. Такая нейтральнасць людзей у Беларусі адлюстроўваецца

---

[14]Эва М. Томпсан Песняры імперыі: Расійская літаратура і каланіялізм (пераклад з ангельскай). Мінск, Медысонт, 2009. 382 с.

[15] Пётра Мурзёнак: “КАБ ЖЫЛА БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯ” (эсэ). “Культура, Нацыя”, №14, чэрвень 2016, с.5-21.

[16]Т. Снайдэр T. Snyder The Reconstruction of Nations: Poland, Ukraine, Lithuania, Belarus, 1569-1999. Yale University Press, 2003.

перш за ўсё ў даволі высокай талерантнасці да рэлігійных і этнічных меншасцяў, якія пражываюць у краіне. Аднак, адной толькі ўнутранай талерантнасці ці нейтральнасці недасткова, каб пазіцыянаваць сябе нейтральнай краінай у сваіх зносінах са зьнешнім сьветам.

Калі разглядаць адносіны беларусаў да зьнешняга сьвету, то каля трацiны беларускага насельніцтва выказваецца да нейтральнага самастойнага шляху развіцьця, не тулячыся ні на Захад, ні на Усход. У нейкім сэнсе гэта бачна і па некаторых дзеяньнях у знешняй палітыцы дзяржавы. Фармальна, афіцыйная зьнешняя палітыка Беларусі выяўляецца ў шэрагу нейтральных паводзін, адлюстраваных як у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь “Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю без’ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай” (Арт. 18), так і сяброўствам у такіх міжнародных арганізацыях як ААН і Рух недалучэньня.

Аднак, паміж “ставіць за мэту быць нейтральнай” і быць нейтральнай ёсць вялікая розніца. Відавочна, што нельга прызнаць за палітыку нейтральнасці сяброўства Беларусі ў АДКБ і Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва (ШАС). Беларусь стала сябрам АДКБ ў 1993 годзе, далучыйшыся да арганізацыі, створанай у 1992 г. азіяцкімі і еўраазіяцкімі краінамі – Арменіяй, Казахстанам, Кіргізіяй, Расіяй і Таджыкістанам. Заявы кіраўніка Беларусі адносна АДКБ носяць розныя адзнакі, пачынаючы ад той, што Беларусь не разглядае АДКБ як ваенны блок, а толькі як рэгіянальную арганізацыю скіраваную на барацьбу з міжнародным тэрарызмам, нелегальнай міграцыяй, наркабізнесам, да заяў аб тым, што трэба дамагацца, каб АДКБ была прызнаная НАТА. Да таго ж, у гэтым годзе Беларусь старшынствуе ў гэтай арганізацыі, па сутнасці, вельмі далёкай ад інтарэсаў беларускай дзяржавы.

Тое ж можна сказаць і пра ШАС, у якой Беларусь прысутнічае з 2015 года ў якасьці назіральніцы. Відавочна, што знаходжанне ў арганізацыі, дзе сябрамі ёсць тыя ж Казахстан, Кіргіізія, Расія, Таджыкістан (1996-1997) плюс Індыя, Кітай, Пакістан, дыктуецца правядзеньнем сумеснай знешняй палітыкі з Расіяй і абумоўлена эканамічнай і каланіяльнай залежнасцю беларускай краіны.

Для таго каб здарылася адмежаваньне ад агрэсара, нейтральнасць можа быць якраз тым адпаведным інструментам. Нейтральнасць не ёсць абсалютная рэч. Датчанін Hugo Grotius пры вызначэньні нейтралітэта пісаў (1625): “... абавязак тых, хто вызнае нейтралітэт, не рабіць у вайне нічога ў бок павелічэньня сілы партыі, падтрымліваючы несправядлівую справу, і не перашкаджаць правядзеньню мер

тым сілам, якія займаюцца справядлівай і праведнай справай ...”[17] Магчыма, што выбіраць паміж дабром і злом, паміж праведнай і няправеднай справай прыйдзецца, але такі выбар павінен зрабіць сам беларускі народ.

Відавочна, што нас сёньня ніхто не чакае ні ў ЕС, ні ў НАТА. І справа не толькі ў тым, якую пазіцыю займаюць гэтыя структуры, а і ў тым, як да такой трансфармацыі будзе ставіцца Расія. Гэта рэальнасць, якая працуе ў сучасным сьвеце. Спроба Украіны атрымаць дарожную карту НАТА (Бухарэсцкі мемарандум, 2008) пад ціскам Расіі нічым не скончылася.

Але і знаходзіцца побач з агрэсарам ніяк не адпавядае ментальнасці беларусаў. Нягледзячы на крытыку рэалістаў аб утапічнасці ідэі нейтральнасці для Беларусі прыняцьце нейтральнасці праз рэферэндум можа быць паважным і магчыма адзіным крокам у маральным і прававым полі, каб заявіць аб спыненьні мілітарных адносін з Расіяй. Пры гэтым трэба прымаць да ўвагі, што па вялікаму рахунку нейтральнасць краін у Еўропе ў чыстым выглядзе да гэтага часу амаль не існавала, у асноўным з-за ціску Вялікіх краін. Нават юрыдычнае афармленьне стану нейтральнасці не гарантуе абарону ад краіны-агрэсара, што найбольш тыпова можна бачыць на прыкладзе Швейцарыі, а ў сёняшніх умовах на прыкладзе Украіны. Аднак, нейтральнасць\узброеная нейтральнасць Беларусі ў далейшым можа адчыніць шлях да ўступленьня ў сістэму калектыўнай бяспекі Еўропы, як зараз гэта робіць Сербія, праводзячы палітыку ўзброенага нейтралітэта.[18] Пад узброенай нейтральнасцю, разумеецца такі стан, калі суверэнная нейтральная дзяржава пакідае за сабой права ўзброенай абароны пры нападзе агрэсара. Падобную пазіцыю займаюць некаторыя еўрапейскія краіны, якія ў нядаўнім мінулым былі нейтральнымі. Да прыкладу, Швецыя мяняе палітыку нейтральнасці на палітыку няўдзелу у ваенных альянсах і праводзіць палітыку салідарнасці ў рамках ЕС.[19]

З пост-савецкіх краін заявы аб імкненьні стаць нейтральнымі зрабілі Украіна (1990) і Беларусь (1994), а Малдова і Туркменістан (1995) абвясьцілі сябе нейтральнымі

[17]On the Law of War and Peace. Hugo Grotius.: *De Jure Belli ac Pacis*, Chapter 17: RespectingThoseWhoareNeutralinWar, p.336. Translated from the original latin by A.C. Campbell, A.M. Batoche Books, Kitchener, 2001.

[18]Tanja Miscevic International Security Cooperation of the Republic of Serbia. In “Neutrality in the 21th Century – Lessons for Serbia”. ISAC Fond, 2013, p.13-16.

[19]H.E.C. Asp Introductory word. In “Neutrality in the 21th Century – Lessons for Serbia”. ISAC Fond, 2013, p.12.

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №16, снежань 2016 ISSN 2291-4757*

краінамі (Табліца). Малдова і Туркменістан, недастатковa моцныя ў эканамічным плане пасля развалу СССР і не маючыя сваіх узброеных сілаў, імкнуцца фармальна гарантаваць сваю бясьпеку. Туркменістан нават здолеў дамагчыся прызнаньня стану пастаяннай нейтральнасці у ААН (1995). Унілатэральна аб’яўленная нейтральнасць Малдовы пакуль не прызнаная. Ці абараняе заяўленная нейтральнасць Малдову і Туркменістан ад магчымай агрэсіі? Вядома ж не.

**Характарыстыка нейтральнасці некаторых краін у пост-савецкі перыяд**

| **Краіна** | **Прызнаньне нейтральнасці** | **Акалічнасці прыняцьця нейтральнасці** | **Магчымыя сцэнары** |
|---|---|---|---|
| **Беларусь** 1994 | Запіс у Канстытуцыю аб мэце зрабіць дзяржаву нейтральнай | З Беларусі выведзена ядзерная зброя | Прыняцьце стану нейтральнасці праз рэферэндум. Далучэньне да сістэмы глабальнай калектыўнай бясьпекі |
| **Малдова** 1995 | Аднабаковае аб’яўленьне | Пакуль не прызнана | У снежні 2016 г. у Кішынёве адчынены цывільны офіс НАТО. Палітычная сітуацыя ў краіне нестабільная. |
| **Манголія** 2015 | Заява на Генеральнай Ассамблеі ААН | Пакуль не прызнана | ? |
| **Сербія** 2007 | Прынята Нацыянальнай Асамблеяй | Праблемы грамадзянскай вайны ў Югаславіі (Косава, Боснія і Герцэгавіна) | Пастановай Нацыянальнай Асамблеі забаронена ўступленьне ў НАТА. Уключэньне ў агульную сістэму бясьпекі ЕС (CFSP) |
| **Туркмені-стан** 1995 | Запіс у Канстытуцыю | Пастаянны нейтралітэт зацьверджаны ААН (1995) | Прыярэтэт - ісці паводле правілаў ААН. Магчыма далучэньне да глабальнай сістэмы калектыўнай бяспекі (ЕС? НАТА?) |
| **Украіна** 1990 | Запіс у Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце аб імкненьні быць нейтральнай краінай | Палажэньне аб нейтральнасці перанесена ў Канстытуцыю. З Украіны выведзена ядзерная зброя | Вярхоўная Рада (ВР) прыпыніла імкненьне да нейтральнасці у сувязі з агрэсіяй Расіі і заявіла аб намеры стаць сябрам НАТА (23.12.2014).<br>У сьнежні 2016 г. у ВР пададзены законапраект аб аднаўленьні стану ядзернай дзяржавы |

Украіна, якая пазіцыянавала сябе быць нейтральнай краінай (што было запісана у Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Украіны 1 ліпеня 1990 г.), атрымала ў 2013 г. чарговую Майдан-рэвалюцыю пад палітычным і эканамічным ціскам Расіі і расійскую ваенную агрэсію (анэксія Крыма, гібрыдная вайна ў Данбасе), як толькі паспрабавала зрабіць крок у бок Ассацыяцыі з ЕС. Не абараніў Украіну і Будапешцкі Мемарандум, падпісаны Вялікабрытаніяй, ЗША і Расіяй яшчэ ў 1994 г. і які павінен быў гарантаваць бяспеку украінскай дзяржаве ў абмен на вывад ядзернай зброі. Аднак, ніякіх гарантый не адбылося і адна з краінай-падпісантаў – Расія – сама сталася агрэсарам, а санкцыі іншых дзяржаў прыйшлі даволі позна. Украіна прыпыніла сваё імкненьне быць нейтральнай, заявіўшы 23 снежня 2014 г. аб сваім жаданьні ўступіць у НАТО. 6 снежня 2016 года ў Вярхоўную Раду Украіны пададзены законапраект аб аднаўленьні стану ядзернай дзяржавы. Такім чынам, рэалізацыя палітыкі нейтральнасці заўжды выклікала і будзе выклікаць пытанні.[20]

Будапешцкі Мемарандум быў падпісаны Вялікабрытаніяй, ЗША і Расіяй і з Беларусьсю (1994). На той час гэта быў вельмі зручны момант для Беларусі заявіць аб сваёй нейтральнасці, па прыкладу Аўстрыі ці Фінляндыі, якія атрымалі статус нейтральных краін у 1948 і 1955 гг., адпаведна, узамен на вывад савецкіх войск з іх тэрыторыі. Цяпер жа Беларусі, каб атрымаць волю і вырвацца з цяжцай сітуацыі адным з крокаў можа быць правядзеньне рэферэндума аб нейтральнасці. Падаецца, што калі б такое пытаньне было пастаўлена на рэферэндум, то яно атрымала б значную падтрымку насельніцтва.

Нягледзячы на тое, што многія даследчыкі не ўключаюць у свой аналіз палітыку нейтральнасці, ці прымаюць яе як палітыку 2-га ці 3-га парадку, ідэя нейтральнасці, як бы яна ні выглядала утапічнай зноў і зноў вяртаецца на сцэну. Інстынктыўна асноўная маса людзей адчувае, што ў гэтай ідэі ёсць свая справядлівасць і надзея на мірнае суіснаваньне, надзея на інтэлектуальныя зьмены ў чалавечай шматпалярнай цывілізацыі, якая зараз знаходзіцца ў стане вялікага крызіса.

Сучасная сітуацыя ў сьвеце вымагае зьмены міжнародных адносін, якія мусяць фармавацца не толькі Вялікімі дзяржавамі, але і малымі краінамі, якія ў сваім імкненьні да недалучэньня рыхтуюць глебу для такіх змен. Відавочна, што роль

[20] Spillmann, Kurt R., Andreas Wenger, and Derek Müller, eds. "The Premises of Ukrainian Foreign and Security Policy." *Between Russia and the West: Foreign and Security Policy of Independent Ukraine*. Vol. 2. Bern: Peter Lang, 1999. 31-52.

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №16, снежань 2016 ISSN 2291-4757*

ААН павінна быць перагледжана, паколькі яна не спраўляецца з вырашэньнем праблем глабальнай палітычнай канфрантацыі. Выглядае несправядлівым, што у Савеце бясьпекі правам вета валодаюць толькі пастаянныя сябры – Вялікія дзяржавы, і не маюць такога ж права прадстаўнікі малых краін. Анахранізмам ёсць і адсутнасць у СБ такіх дзяржаў як Германія і Японія – пасля II-й сусьветнай вайны прайшло ўжо больш 70 год. Некаторыя посьпехі ў гуманітарных сьферах – адукацыя, ахова здароўя, міратворчыя функцыі ААН, не закрываюць недахопы ў папярэджаньні і абмежаваньні ваенных канфліктаў. Супернічаства паміж лакальнымі ці глабальнымі краінамі-агрэсарамі ідзе насуперак жаданьням народаў жыць у міры і спакоі.

Нейтральнасць можа быць інструментам для стварэньня нацыянальнай бяспекі і атрыманьня мірных умоў для будаўніцтва нацый для многіх краін, уключаючы Беларусь. Безумоўна, што для правядзеньня такой палітыкі неабходна як палітычнае рашэньне самой суверэннай дзяржавы, так і зьмены палітычнага клімату ў цэлым сьвеце. Набыцьцё краінай нейтральнасці і адпаведныя зьмены ў Канстытуцыі грунтуюцца на міралюбівым настроі беларускага насельніцтва, на юрыдычнай норме аб імкненьні быць нейтральнай дзяржавай (Канстытуцыя РБ, Арт. 18), на сяброўстве ў Руху недалучэньня і ААН, на рознанакіраванасці беларускай эканомікі, і на прыкладах іншых краін, якія хочуць вызваліцца з-пад ціску Вялікіх краін. Прыняцьце стану нейтральнасці на рэферэндуме можа быць прававой і маральнай падставай для выйсьця краіны з ваенных блокаў і адкрые шлях да ўступлення да сістэмы глабальнай калектыўнай бяспекі. Адмоўнымі фактарамі для пачатку такога працэса з’яўляюцца каланіяльны характар узаемадносін паміж Расіяй і Беларусьсю, аўтарытарнасць кіраўніцтва і адсутнасць грамадзянскага дыялога, нео-савецкая ідэалогія разам з састарэлым тыпам эканомікі, які не шмат зьмяніўся праў 25 год існаваньня Рэспублікі Беларусь.

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №16, снежань 2016* *ISSN 2291-4757*

**Piotra Murzionak: Neutrality of Belarus as the Transition to a Global System of Collective Security**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", December 2016, issue 16, pp. 24-32)*

The neutrality of Belarus is seen as one of the basic conditions for realization of the "Belarusian National Development Strategy". Neutrality, acquired with the support of society through a referendum, could provide the legal and moral basis for the country to be out of aggressive military blocs and at the same time paving the way to join the global system(s) of collective security. Despite the criticism of realists considering the idea of neutrality for Belarus as an utopia, the adoption of the status of neutrality can be respectful and perhaps the only step in the moral and legal framework in order to escape from the heavy colonial dependence on Russia. Obviously, for such a policy must be a political decision of a sovereign state itself, as well as the changes in the political climate in the whole world. Neutrality\armed neutrality for Belarus is based on the peaceful mood of the Belarusian population, on the legal norm of striving to be a neutral state (the Constitution of the Republic of Belarus, Art. 18), on membership in the Non-Aligned Movement and the United Nations, on diversity of Belarusian economy, and on the examples of other countries which want to break the pressure of Great powers.

## Да 125-годдзя з дня нараджэньня Максіма Багдановіча

Максім Багдановіч – геній беларускай паэзіі нарадзіўся 9 сьнежня 1891 года. У азначэньне гэтай падзеі часопіс "Культура, Нацыя" друкуе падборку матэрыялаў, дасланых беларускім паэтам і празаікам, сп. С. Панізьнікам. У гэтую цікавую і багатую падборку ўвайшлі нататкі аўтара "Спыняюцца імгненьні" пра "сустрэчу" з паэтам у Ялце, два вершы прысвечаныя М. Багдановічу – "Зарок Максіму" і "На прыберагах Гурона", пераклад верша украінскага паэта Міколы Пятрэнкі "Сонца над песняю М. Багдановіча", своеасаблівая справаздача сп. С. Панізьніка ў азначэньне 125-годдзя з Дня нараджэння Творцы "Пад кронай надзеі", а таксама архіўны артыкул К. Езавітава "Ненадрукаваныя творы Максіма Багдановіча" (з часопіса "Новы Шлях", № 1, 1944, Рыга).

Юбілейнай даце прысьвечаны і артыкул Ніны Дэбольскай, у якім яна дзеліцца сваім досьведам у перакладзе вершаў Максіма Багдановіча на французскую мову.

**Сяргей Панізьнік: С П Ы Н Я Ю Ц Ц А І М Г Н Е Н Н І**

А было гэта ў ліпені 1978 года. Мы паздароўкаліся з Максімам Багдановічам каля санаторыя "Беларусь" у Місхоры, дзе ўстаноўлены яму ўзлётны помнік. Пачалі шукаць мясціны яго даўняй прысутнасці. Не знайшлі, на жаль, пазнакі каля даўняга пансіяната "Шалаш"...

А вось і помнік класіку ўкраінскай літаратуры Лэсі Украінцы - ля дома, дзе яна жыла ў 1897 годзе. На вуліцы Літкенса, 8 размяшчаўся "Ялцінскі краязнаўчы музей". Захацелася заглянуць у гістарычны будынак. Радасна было заўважыць там стэнд, прысвечаны класіку нашай літаратуры Максіму Багдановічу, з прыгожым партрэтам, здымкамі таго ж "Шалаша", дома, дзе былі напісаны ім апошнія радкі. Не, і мы не былі самотныя ад такой яркай сустрэчы, незабыўнага вітання.

На могілках, каля "першабытнага" помніка нашаму класіку, нас чакала неспадзяванка: Ужо прытулілася да Максіма Адамавіча пісьменніца, педагог Таццяна Вечаславаўна Кабржыцкая - львавянка з мінскай прапіскай. Побач яе -

рухавыя сыны Максімка і Пятрок. Павіталіся - і адразу паболела Максімаў на свеце!

У снежні 1989 года адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі з барэльефам Максіма Багдановіча на корпусе санаторыя "Ялта" (вул. Севастопальская, 12/43 - на месцы дома, дзе меў апошні прытулак Максім Багдановіч). Прысутнічалі на такой важнай падзеі аўтар мемарыяльнай шыльды Г. Мурамцаў, паэт М. Аўрамчык, дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску А. Бяляцкі.

Ялта - гэта гэта толькі адна з багдановічаўскіх выспаў яго Крымскага мацерыка. Недзе ў космасе звіняць сляды Максіма, пакінутыя ім у Кактэбелі, Феадосіі, у мясцінах напісання старонак шчымліва-любаснага дзённіка. І хай Лэся Украінка, якая спазнала калісьці мерыдыяны Максіма ў Мінску, не дае журбоціцца яму на ялцінскіх паралелях.



Помнік М. Багдановічу каля санаторыя "Беларусь" у Місхоры (аўтар Заір Азгур)

**ЗАРОК МАКСІМУ**

*Да 125-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча*

1.
Быў вясновы час і зімні…
Багдановіч – над усімі!
Багдановіч наш – для ўсіх!
Цешымся з Табой, Максіме:
Дзень Народзінаў не ўціх.

У Музеі Памяць-Кварту
хочам думкамі наліць,
у “Вянку” пялёсткам быць,
жыць Максімаваю вартай,-
каб не грукаліся коні
па пустэчы, каб змаглі
мы штодня быць у пагоні
за прастор сваёй зямлі.

Мінск для госця – не парожні:
тут парог Максіма грэе,
разам з намі Львоў шчырэе,
гляне Горадня на пожні,-
Яраслаўль не ачужэе…
Бо планетай сам Максім.
З мілатой перад усім -
ён Ваяр, Вястун, Будзіцель.
Сёння кліча зноў:
- І д з і ц е,
зблізку хто і хто здалёк,
зведаць мацярык, дзе ў жыце
мой трапеча Васілёк!

2.
З намі Ён, гадоў хадок, -
яравы наш і азімы…
Слухай, малады Максіме!
Сёння зноў даем зарок:

ад Паэта – ні на крок, -
бо ў любові, ў веры, ў сіле
продкі шчыраваць прасілі
і над Ялтай – галубок…

Памяць – Вечнасці клубок,
а гады пры ім – плавільні…
…Вершы грэе і для Вільні
Ракуцёўшчыны дубок.

-------------------------------------

Зарок – абяцанне, клятва. У фальварку Ракуцёўшчына летам 1911 г. жыў М. Багдановіч. Там штогод у гонар паэта праходзіць Свята паэзіі і песні “Ракуцёўскае лета”.

*Сяргей Панізьнік 8.12. 2013; 2016*

**НА ПРЫБЕРАГУ ГУРОНА**

Бульвар Шаўчэнкі – выгіб, не тупік:
Шэкспірам прадаўжаецца паўкружжа.
…Паблізу возера бульварам ружаў
Іду я да Ўкраіны напрамік,

Да Ялты Багдановіча, на зовы
Максімавай напорыстае мовы,-
Не выправіць якую новы Крым,
Каб стаць і Багдановічу чужым.

Бульвар Шаўчэнкі... Я гайдаю слых
Між хваляў Чарнамор”я і Гурона:
Не выгіб тут – паўкружжа бастыёна,
Дзе і мая праходзіць абарона
Ад навалачы прыбояў злых.

Бульвар Шаўчэнкі… Зашумела крона.
А мо Кабзар пачуў Купалы ўздых?

----------------------------------------------------

Горад Кінкардэн з бульварам Шаўчэнкі знаходзіцца на беразе возера Гурон у канадскай правінцыі Антарыё. *Сяргей Панізьнік, 9.8.2015*

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №16, снежань 2016 ISSN 2291-4757*

**Мікола Пятрэнка: Сонца над песняю М. Багдановіча**

Б і л а Р у с ь, блакітнае ў зялёным,
Беларусь, каронныя дубы.
Мо й таму ў напрузе тут страмёны,
Зьвяга шабляў пад зазыў трубы?

Ворагі нацэльваліся ў грудзі -
З кайданамі, крыжам і ярмом…
Беларусь – сасоністыя людзі,
Беларус ь – з крутых аблокаў гром.

Не гарбей, скрышы нашэсця крыгу,
Орды варажнечы разгані!..
Вунь Скарына зрукатворыў кнігу
Вольнасці, любові, дабрыні.

Над вякамі літараў суквецце,
Словы пад вясёлкавай дугой.
Іх з далоняў развівае вецер,
Каб раслі з атаваю тугой.

Выдужалі словы і ў зазіме,
Хвалі памаглі радочкі звіць.
Суджана было табе, Максіме,
Іх у новай песні ажывіць.

Беларусь табе жадае долі,
З продкамі заве на талаку,
Падсыпаючы жывінкі солі
Да акрайчыка на рушніку.

Пачастунак гэткі -- не даплата,
А прычасце на святой расе.
Ў кнізе сэрца песняй распачатай
Скрэсліваеш нагаворы ўсе.

Песню весляць крылы непакоры.
З ёю я ўздыму любую грузь.
Б і л а Р у с ь, зыркотлівыя зоры,
У разліве сонца Беларусь!
*1981 г., Львоў*

*З украінскай мовы пераклаў Сяргей Панізьнік (каля бульвара Шаўчэнкі пад возерам Гурон у Канадзе). 18.Х.2016*

**Сяргей Панізьнік: ПАД КРОНАЙ НАДЗЕІ**

Творчая справаздача да 125-годдзя з Дня нараджэння класіка літаратуры Максіма Багдановіча (9.12.1891 – 25.05.1917) - паэта, перакладчыка, крытыка, гісторыка літаратуры.

1. Прысутнасць імя Творцы на старонках маіх зборнікаў вершаў.

Кастры Купалля. 1967. Ст. 8.
Палявая пошта. 1972. Ст. 77.
Крона надзеі. 1975. Вечнае сіняе неба (Максіму Багдановічу). Ст. 40.
Чало і век. 1979. Ст. 37.
Слова на дабрыдзень. 1982. Раздзел "У вянок Максіму Багдановічу". Ст.76-84.
Мацярык. 1985. Ст. 56-57; 94.
Пры сьвячэньні… 2004. Ст.20-21; Паўдзённы трыпціх --109-110; 189.
Одэсь Нога "Максім Багдановіч". Гуаш. Львоў.1992.
На ўсе вякі… 2011. Вершы на белар. і ў перакл. на англ. і франц. мовы.
Пад рубрыкай "Светлая згадка пра Максіма Багдановіча"—верш "Эмігрантская песня" і пераклад на латышскую мову Андрыса Веянса. Олэсь Нога "Максім Багдановіч". Гуаш.
Літары ў расе. 2011. Ст. 57-58.
Нас – многа! (Гадоў увершаваныя радкі). 2012. Хваласпевы аўтарам зборніка "У краіне паэтаў—Au pays des poetas". Пераклад на франц. Н. Дзябольскай. "Адповедзь"– ст.101.
Мал. Рыгора Фралова "М. Багдановіч". Львоў.1966.

2. Укладальнік зборнікаў

М. Богданович. Узор василька. 1985.
Для серыі "Школьная бібліятэка"
Максім Багдановіч. Шыпшына. 1991.
У бязмежную даль: Кніга пра Максіма Багдановіча. 1996.

Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі. 2003.
Станіслаў Валодзька. Ля сіняй бухты (Памяці М. Багдановіча) ст. 49.
Андрыс Веянс. Слова на дарогу. Прадмова да кнігі М. Багдановіча
Цвяток радзімы васілька…( На латышск. і бел. мовах).
Пераклад Ніны Янсанэ (Панізьнік). Ст. 326-327.
Тысяча гадоў добраму суседству: Беларуска-літоўскае гістарычнае і літаратурнае сужыццё. Анталогія. 2009.

Згадкі пра М.Багдановіча ва ўкладзеных зб. "Ветразь" (1985, 1990, 1991);
у дзесяці выпусках гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына"(1990-2002).

3. Быў рэдактарам кінанарыса "Сустрэчы і ростані" – да 90-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. Удзельнікі Зоська Верас, Міхась Пазнякоў, Ніна Ватацы, Віталь Скалабан. 1981 г. Эфір на БТ – пач.1982 г. Ф/здымкі захаваў.

4. Дабравест. Песні на словы Сяргея Панізьніка. Зб. "Чатыры чвэрці". 2006.
Світальная зорка. Музыка Міколы Яцкова. Ст. 20.
Арэлі. Сяргей Панізьнік у вершах і песнях. Кампакт=дыск. "Вігма". 2011.
Світальная зорка. Музыка Міколы Яцкова.

5. Мае публікацыі пра М. Багдановіча

Да Максіма Багдановіча. ЛіМ. 7.03.1980.
Белым каменем адзначым… Голас Радзімы. №50. 17.11.1981.
І радзімаму краю служыць. Чырвоная змена. 9.11.1989.
Ты не згаснеш, ясная заранfamчка… Чырвоная змена. 2.09-8.09.1991.
Скрыжалі "Спадчыны". Вып.6. Альманах. Культурна-асветніцкі клуб "Спадчына". Менск. 2014. "…З пажаданнем вялікай любові" ( Пра сустрэчы ў багдановічаўскім Львове з Валянцінай Коўтун).
Абліччы. Ракуцёўскае лета. ЛіМ. №30.1.08.2014.

Абліччы. Дзе шлях, там і песня. (Пра “Сустрэчы і ростані”). ЛіМ. №11.20.04.2015.
Вітанні з Багдановічам. Культура. №50.12.12.2015.
(Прысутнасць у кнізе ”Пясняр чыстае красы: успаміны, артыкулы, прысвячэнні”. Серыя ЖЗЛБ. Укл. Т. Шэляговіч. 2011.)

6. <u>У штодзённіку пазначана</u>…

1965 год. “Беларускае зямляцтва імя Цёткі” дапамаглі мне заснаваць у Львове студэнты медыцынскага, гандлёва-эканамічнага і паліграфічнага інстытутаў, навучэнцы кансерваторыі. Спрыялі пісьменнікі Р. Лубкіўскі, У. Лучук, А. Сенатовіч, выкладчыкі ўніверсітэта І. Дэнысюк, У. Маторны, К. Трафімовіч…

9.11.1966 г. З ініцыятывы зямляцтва ў Будынку вучоных адзначылі 75-годзе з дня нараджэння М. Багдановіча. Былі запрошаны госці з Мінска Мікола Хведаровіч, Сцяпан Александровіч, Анатоль Вярцінскі.

4.12.1981 г. 90-годдзе з дня нараджэння М. Багдановіча адзначылі ў Львоўскай навуковай бібліятэцы імя В. Стэфаніка выстаўкай “Співець братэрства”. Газета “Вільна Україна” (№ 235, 8.12.1981) паведаміла: “На адкрыцці выстаўкі выступілі паэты Раман Лубкіўскі, Мікола Пятрэнка ды госці з братняй Беларусі Валянціна Коўтун і Сяргей Панізнік”. Прагучала песня А. Кос-Анатольскага“Маладыя гады” на словы М. Багдановіча.

Верасень 1987 г. Львоўскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Украіны запрасіла творцаў з Беларусі на абмеркаванне літаратурных, культурных стасункаў, узаемаперакладаў. 23.10.1987 г. у “ЛіМе” быў надрукаваны мой допіс: “Па-дзелавому, пранікнённа выступілі вядучыя “круглага стала” Вольга Іпатава і Раман Лубкіўскі. Шчырымі, заклапочанымі былі гарачыя словы ўсіх удзельнікаў бяседы – Аксаны Сенатовіч, Валянціны Коўтун, Уладзіміра Лучука, Івана Дэнысюка, Міколы Ільніцкага…”
Тыя дні ў Львове былі заняты па просьбе супрацоўніцы БТ Вольгі Іпатавай і падрыхтоўкай тэлесцэнарыяў: “Пачуццё сям”і адзінай”, “Рваць ланцуг цемнаты”, “Подзьвіг Скарыны”.

10.03.1992 г. У Львоўскім дзяржаўным універсітэце імя І. Франка адбылося ўшанаванне М. Багдановіча літаратуразнаўцамі, паэтамі. Заўважу, што ўдзельнікі ўсіх львоўскіх сустрэч пакідалі ў маім сшытку аўтографы. Працытую некалькі вясенніх радкоў із 92-га года:”Мая любоў да Беларусі пачалася з Багдановіча задоўга да Сяргея Панізніка і Валянціны Коўтун. І гэтая любоў не здрадзіла. Дай Божа нашым народам любові, якая не здраджвае. Наталля Смаляна”.

“Львоў вельмі прыгожы і знакаміты”,- пісаў Максім Багдановіч, здалёку адчуваючы ўзнёслую чароўнасць Альбова. Альбоў - так называўся гэты горад у беларускіх песнях. Слуцкімі паясамі, старадрукамі з беларускіх пячатняў любаваўся я ў львоўскіх музеях. А самы цікавы падарунак атрымаў ад Уладзіміра Лучука. Гэта ён у 1992 годзе ці не за суткі падрыхтаваў у друкарні СПТВ № 58, якая знаходзілася ў будынку былога Стаўрапігійскага брацтва, незвычайную кніжыцу. Там змешчаны верш М. Багдановіча “Пагоня” і пераклады яго на розныя мовы свету. На ўкраінскую – М. Драй-Хмары, Я. Славутыча, Р. Лубкіўскага, У. Лучука, А. Грызуна. На рускую – Б. Спрынчана. На нямецкую – Ф. Нойрайтэра. У гэтым ратапрынтным выданні чытаецца верш Івана Драча “Літоўская Пагоня ад Максіма Багдановіча” у перакладзе на беларускую мову В. Жуковіча. Тут і верш самога У. Лучука “Рэха Пагоні”, які быў напісаны ім у Мінску 8.12. 1991 г., і верш Р. Скібы “Паводле матываў Багдановіча”. Беларуская прысутнасць – і ў выказваннях В. Рагойшы пра любоў нашага генія да Украіны.

Так, Львоў не толькі “вельмі прыгожы і знакаміты”, але і неверагодна шчодры на прызнані ў любові да Творцы. У маім кнігазборы побач лучукоўскага выдання “Пагоні” праз 10 гадоў стала кніга “Максим Богданович. Стратим—Лебідь”. Уклаў яе і выдаў Раман Лубкіўскі (2002).



Дарчы подпіс Рамана Лубкіўскага: "Дорогому Сергієві Панізнику, побратимові давньому й надійному, -- з глибокою вдячністю за присутність в українській культурі Максима Богдановича. Мінськ. 26.02. 2003"

Страцім-лебедзь... Так… А найперш
Ён - Ваяр, Вястун, Будзіцель сёння кліча нас:
- Ідзіце
зблізку хто , і хто здалёк,
зведаць Мацярык, дзе ў жыце
мой трапеча Васілёк!

Сяргей Панізьнік.

# НЕНАДРУКАВАНЫЯ ВЕРШЫ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА



*Максім Багдановіч*

У студзені месяцы 1944 году спаўняецца 35 гадоў ад таго часу, калі у 1-ым нумары газэты «Наша Ніва» за 1909 год, на балонцы 14-й, зьявіўся першы друкаваны беларускі верш нашага таленавітага паэты Максіма Багдановіча. Было тады Максіму Багдановічу, які нарадзіўся 27 лістапада 1891 году, усяго толькі 17 гадоў, аднак надасланы ім у рэдакцыю верш «Над магілай» быў ужо ня першаю спробаю пяра маладога пісьменьніка, ды і самае выступленьне ягонае на балонках «Нашае Нівы» з гэтым вершам ня было першым ягоным «хрышчэньнем у літаратуры», бо ужо 6-га ліпеня 1907 году, калі Багдановічу было усяго толькі 15 гадоў і 5 месяцаў, у 24-ым нумары «Нашае Нівы», на балонцы 4-й было надрукавана ягонае кароткае апавяданьне — «Музыка». Ад гэтае даты і трэба фактычна лічыць ягоную беларускую літарацкую чыннасьць, але як беларускі паэта ён упяршыню зьявіўся у друку 35 год таму.

Малады паэта не адразу заваяваў сабе вызнаньне у рэдакцыі «Нашае Нівы», і ужо першы ягоны верш «Над магілай» быў надрукаваны у скарочаным выглядзе.

Далейшыя вершы М. Багдановіча спаткалі у рэдакцыі «Нашае Нівы» войструю крытыку і апазыцыю з боку Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага), які уважаў іх за «дэкадэншчыну», і з боку А. Уласава, які загадаў «здаць іх у архіў». Толькі маладзейшыя сябры рэдакцыі, Янка Купала, Вацлаў Ластоўскі і асабліва Сяргей Палуян, абаранялі Максіма Багдановіча і, як сьветчыць аб гэтым Вацлаў Ластоўскі у сваіх «Успамінах аб М. Багдановічу», надрукаваных у нумары 1-ым часапісу «Крывіч» за 1926 год, толькі пад канец 1909 году рэдакцыя «Нашае Нівы», пад націскам прыехаўшага з Кіеву С. Палуяна, зноў пачала друкаваць вершы М. Багдановіча.

Малыя памеры газэты «Наша Ніва», а таксама і тое, што яна выходзіла толькі раз на тыдзень, а да таго яшчэ дужа буйнымі літарамі ды з рознымі пракладкамі і непатрэбнымі «упрыгожаньнямі», — зрабілі тое, што шмат рукапісных матар'ялаў, а у тым ліку і вершаў М. Багдановіча, сабралася у рэдакцыйным архіве і зусім ня трапіла у друк.

Пасьля спыненьня у 1915 годзе працы газэты «Наша Ніва» і асабліва пасьля нечаканае сьмерці М. Багдановіча, 25-га траўня 1917 году, паасобныя лісткі з рукапісаў Максіма Багдановіча з былога архіву газэты «Наша Ніва», які перахоўваўся у прыватных асобаў, разыйшліся з Вільні «на памятку аб паэце» па розных кутках Беларусі, а нават трапілі і за межы, дзе іх ахвотна куплялі паасобныя беларускія грамадзяне, што высока шанавалі памяць паэты.

Калі Інстытут Беларускае Культуры, з прафэсарам Усеваладам Ігнатоўскім і Вацлавам Ластоўскім на чале, распачаў у 1927 годзе зьбіраньне матар'ялаў аб М. Багдановічу для акадэмічнага выданьня «Творы М. Багдановіча», дык шмат рукапісаў паэты было з розных мясьцінаў накіравана у Менск і сканцэнтравалася у Інбелкульце. Але зносіны з савецкім Менскам былі у той час для замежных беларусаў дужа цяжкімі і часта-густа вельмі небясьпечнымі, апроч таго шмат хто аб падрыхтоўцы збору твораў М. Багдановіча зусім нават і ня ведаў, дык ня дзіва, што яшчэ і сяньня ёсьць у паасобных грамадзянаў аўтографы з яшчэ недрукаванымі вершамі М. Багдановіча.

Тутака мы зьмяшчаем аўтографы трох вершаў М. Багдановіча: «Крытыку», «Вагітная» («Цяжарная») і «Жывая лялечка», напісаных у 1910 годзе у Яраслаўлі, калі паэта быў яшчэ вучнем VII-е клясы Яраслаўскай гімназіі. Аўтографы гэтыя зьяўляюцца уласнасьцю аўтара гэтых радкоў і атрыманы ім у 1927 годзе з Варшавы ад ведамага беларускага бібліёграфа Рамуальда Зямкевіча, які здабыў іх з архіву газэты «Наша Ніва».



Тэксты гэтых аўтографаў напісаныя М. Багдановічам дужа старанна і чытаюцца яны лёгка, аднак, дзеля большае пэўнасьці, мы побач з аўтографамі падаём іхны тэкст яшчэ і у друкаваным выглядзе.

**Крытыку.**

Дарэмна ловіце вы ў сетку матылька,  
Каб лепей скрыдлы разглядзець:  
Ударыўшы, памне іх сецъ  
І яркі пыл сатрэ няспрытная рука.

Максім Багдановіч.

Яраслаўль.  
Чырвень 1910 году.

Верш гэты зьяўляецца адказам М. Багдановіча на тыя нападкі, што рабіліся на яго у рэдакцыі «Нашае Нівы», і фактычна ёсьць ён эпіграмай на Ядвігіна Ш., які асабліва жорстка, беспадстаўна і няўдала «крытыкаваў» творчасьць маладога паэты, не разгледзіўшы і не адчуўшы у ім вялікага таленту надзвычайнае вартасьці. Калі-б не гарачая сяброўская падтрымка Вацлава Ластоўскага, Янкі Купалы і Сяргея Палуяна, дужа лёгка магло-б стацца, што творы Максіма Багдановіча гэтак і загінулі-б у архіве «Нашае Нівы», зусім не пабачыўшы сьвету, бо рэдактар Аляксандар Уласаў цікавіўся галоўным чынам пытаньнямі гаспадарскімі, а абодвы браты Луцкевічы пераважна занятыя былі справамі палітычнымі.

Зусім зразумела, што эпіграма «Крытыку» дужа не спадабалася старэйшаму пакаленьню рэдакцыі «Нашае Нівы», бо ня толькі Ядвігін Ш., але і кажны з іншых траіх убачыў у васобе лаўца матылька сваё уласныя постаці. Таму верш гэты быў тройчы перакрэсьлены тлустым сінім алавіком і «здадзены у архіў».

**Вагітная.**

Вечар ціхі, вечар просты  
Ад усходу ўжо ідзе.  
Бусел белы, чорнахвосты  
Будзе хутка у гнязьдзе.  
Роўнай, важкаю хадою  
Я іду адпачываць.  
Ціша вее нада мною  
І, здаецца, штось чуваць.  
Мо пачула бусла вуха,  
Што над хатаю ляціць.  
Мо дзіцёнка сэрца глуха,  
Глуха так ва мне стучыць.

Максім Багдановіч

Гэты чулы і сардэчны верш гэтак сама не пабачыў сьвету. На ім чорным алоў-

*Алесь Салавей*

## *МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ*

*Нечакана парвецца жыцьцё... Больш ніколі яно не ўваскрэсьне,*  
*Колькі думак нязбытых бярэ да сябе падыспадная цьма!*  
*Спатыкае іх вечны спакой. І ўсёроўна ім — вольна, ці цесна...*  
*Толькі той будзе жыць, не памрэ — у нябыт каму шляху няма.*  
*Не памрэ толькі той, хто аддаў усе сілы жыцьця для народу,*  
*Хто мінулае ўславіў красой, зазірнуў хто і ў прышлыя дні.*  
*Дар ягоны, убраны ў вянкі, шанавацьмуць нашчадкі заўсёды,*  
*Воды ўлеваў ня змыюць яго і ня спаляць пякельняў агні.*

*Рыга, 7. 9. 1943 г.*

12

Вагітная

Вечар ціхі, вечар просты
Ад усхода ўжо ідзе.
Бусел белы, чорнахвосты
Будзе хутка у гняздзе.

Роўнай, важкою хадою
Я іду адпачываць.
Ціша вее нада мною
І, здаецца, штось чуваць.

Мо пачула бусла вуха,
Што над хатаю ляціць.
Мо дзіцёнка сэрца глуха,
Глуха так ва мне стучыць.

Максім Богдановіч.

кам быў перакрэсьлены назоў вершу «Вагітная» і напісана — «Цяжарная», а збоку было нэрвова прыпісана: «украінізм!». У гэткім выглядзе і гэты верш трапіў «у архіў».

Цікава тутака зацеміць, што у зборніку «Вянок», дзе М. Багдановіч у шэрагу чулых вершаў спыняецца на тэй-жа тэме мацярынскасьці, што глыбака узрушыла яго, тэрмін «вагітная» пакінуты непарушна.

*

Жывая лялечка! Ня душу і ня сэрца
У вас я пакахаў, а голаса красу,
Ды граньне мілае шопэнаўскага скерцо,
І вочы сінія, і русую касу.
Мы адружыліся, і вось вы нават — матка,
У чэраві сваім хаваеце дзіця.
І ўсе, як раньш, мілы. Вы — пекная акладка
Да кнігі новага жыцьця.

Максім Багдановіч.

У гэтым вершы Максіма Багдановіча, што дужа цікавы з боку біяграфічнага, ёсьць адчыненае вызнаньне ягонае рамантычнае блізкасьці да нейкае дзяўчыны, якая нават сталася маткаю, але пабрацца з якой яму не давялося.

У Ялце Максім Багдановіч закахаўся у нейкую М. А. Кіц-ную, якой у 1909 годзе прысьвяціў два вершы: 1-шы верш-трыялет — «Я хворы, бяскрыдлаты паэт» — напісаны быў на другім баку ягонае фатаграфічнае карткі і потым выдрукаваны быў у 1927 годзе у 1-ым томе «Творы М. Багдановіча», на балонцы 8-й, пад 6-ым нумарам; 2-гі верш — «Цемень» — быў спачатку надрукаваны у 51-52 нумарох газэты «Наша Ніва» за 1909 год, а потым зьмешчаны быў пад 18-ым нумарам на 21-й балонцы таго-ж 1-га тому «Твораў». Пад загалоўкам гэтага вершу ёсьць прысьвячэньне аўтара: «Ахвярую М. А. Кіц—най».

Ці «Жывая лялечка», якой ён у 1910 годзе прысьвяціў свой верш, зьяўляецца тэй-жа самай М. А. Кіц-най, — мы пэўных вестак ня маем, але ёсьць падставы думаць, што гэта была яна, бо паэта наш быў закаханы моцна і праз колькі год пазьней шукаў паратунку ва узмоцненых занятках навукамі і літаратурай. Ён літаральна абклаўся кніжкамі і стаўся запраўдным «Максімам Кніжнікам», як пачалі яго празываць у студэнцкія годы сябры і знаёмыя, бо заўсёды і усюды спатыкалі яго з пачкаю кніжок пад пахаю. Цэлыя ночы, не шкадуючы свайго здароўя, праводзіў ён тады за кнігамі, вывучаючы літаратуры усіх эўрапэйскіх народаў, працуючы над перакладам вершаў з розных моваў і пішучы свае уласныя вершы і артыкулы.

Усе тры зьмешчаныя тутака вершы цікавыя яшчэ і тым, што у паперах Максіма Багдановіча, якія былі здадзены ягоным бацькам Адамам Багдановічам у Інстытут Беларускае Культуры, не захавалася ніякіх варыянтаў іх, а таксама і чарнавых накідаў. Гэта наводзіць на думку, што цэлы шэраг вершаў Максіма Багдановіча, канчаткова ім апрацаваных, быў пасланы ім у рэдакцыю «Нашае Нівы», а іхныя чарнавікі былі зьнішчаны, як ужо непатрэбныя. Дзеля таго, што «Наша Ніва» сваячасна гэтых вершаў не надрукавала, можа стацца, што яны зусім загінуць для нашых нашчадкаў, калі заразжа ня будуць зроблены энэргійныя крокі, каб перагледзіць усе архівы «Нашае Нівы», дзе-б яны ня былі, і выбраць з іх для апублікаваньня усе вершы Максіма Багдановіча.

*

Каб паказаць, як бесцарэмонна ставілася рэдакцыя «Нашае Нівы» да вершаў М. Багдановіча, зьмяшчаем мы тутака яшчэ два ягоныя аўтографы з кароценькімі вершыкамі: «Эпіграф да верша» і «Да дзяўчыны». Абодвы гэтыя вершы, перакрэсьленыя колькімі тлустымі штрыхамі, таксама былі «здадзеныя у архіў».

* * *

Жывая лялечка! Не душу і не сэрца
У вас я пакахаў, а голаса красу,
Ды граньне мілае шопэнаўскага скерцо,
І вочы сінія, і русую касу.

Мы адружыліся і вось вы нават — матка,
У чэраві сваім хаваеце дзіця
І ўсе, як раньш, мілы. Вы — пекная акладка
Да кнігі новага жыцьця.

Максім Богдановіч.

Эпіграф да верша.

Мая душа, як лук, нацягнутай была,—
І лёгкі, звонкі верш сарваўся, як страла.

*Максім Багдановіч.*

Яраслаўль.

Да дзяўчыны.

Змоўкнулі вершы мае прад табой: іх красу зацяняюць
Рытмы паходкі тваей, сінія рыфмы вачэй.

Яраслаўль.

*М. Багдановіч.*

Да гонару рэдакцыі «Нашае Нівы» трэба аднак аднесьці той факт, што яна не давала у сваей «Паштовай скрынцы» вострых і абразьлівых водзываў на вершы. Нават зусім слабых паэтаў старалася яна не адкідаць ад творчай працы, а заахвочваць іх на далейшыя стараньні і дасканаленьне. Ня мела яна звычаю і кідаць няпрынятыя да друку вершы «у кошык» на зьнішчэньне, як гэта рабілі іншыя рэдакцыі, а зьбірала ненадрукаваныя манускрыпты у асобных архіўных папках. Дзякуючы гэтаму добраму звычаю, мы маем цяпер магчымасьць, хоць і праз 35 гадоў, а усёж-ткі апублікаваць старанна перахаваныя аўтографы нашага слаўнага паэты.

*К. Езавітаў.*

Эпіграф да верша.

Мая душа як лук, нацягнутай была,—
І лёгкі, звонкі верш сарваўся як страла.

Максім Богдановіч.

Яраслаўль.

Да дзяўчыны.

Змоўкнулі вершы мае прад табой: іх красу зацяняюць
Рытмы паходкі твaей, сінія рыфмы вачэй.

М. Богдановіч.

Яраслаўль.

**Siarhei Paniznik: Staying Moments. To the 125th Anniversary of Maksim Bagdanovich**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", December 2016, issue 16, pp. 33-45)*

December 9, 2016 marks 125 years since the birth of Maksim Bagdanovich. The "Culture, Nation" magazine prints a selection of materials sent by Belarusian poet, translator and novelist, Siarhei Paniznik. This interesting and rich collection includes the author's notes "Staying Moments" about "meeting" with the poet in Yalta, two poems devoted to M. Bagdanovich, translation of the poem of the Ukrainian poet Nikolai Petrenko, a kind of report by S. Paniznik in the definition of the 125 anniversary of the birth of the Poet, as well as archival paper by K. Ezavitau "Unpublished works of Maksim Bagdanovich" (from the magazine "Novy Shljakh" ("New Way"), number 1, 1944, Riga).

**Нина Дебольская: Из опыта перевода на французский язык стихотворений Максима Богдановича**

В своём письме Полю Валери Марина Цветаева утверждает: “…la traduction d'une langue en une autre est la transformation d'une forme matérielle en une autre forme matérielle, ce qui est beaucoup plus facile que la transformation de l'esprit en matière, celle de l'âme en corps.” То есть: «…перевод с одного языка на другой это всего лишь превращение одной материальной формы в другую, что гораздо легче, чем превращение духа в материю, чем переход души в тело.»

Из этого рассуждения можно сделать, как мне кажется, только один вывод: ничего невозможного нет.

Пятнадцать лет тому назад на международной научно-практической конференции в минском литературном музее Максима Богдановича узнала о том, что белорусский поэт переводился и переводится на английский язык. Меня заинтересовала возможность перевода на французский язык стихотворений Максима Богдановича, который, очевидно, тяготел к французской поэзии. Сам поэт перевёл 22 стихотворения Поля Валери, стихотворение Эмиля Верхарна “La révolte”» (“Паўстанне”). Сонет малоизвестного французского поэта Алексиса-Феликса Арвера Максим Богданович перевёл и на белорусский, и на русский язык.

Для эпиграфов своих произведений он брал строчки из Буало, Виктора Гюго, Армана Сюлли-Прюдома, Сэнт Бёва, Поля Верлена. “Un sonnet sans défaut vaut seul un long poème”. (“Беззаганны санет варты адзін цэлай паэмы”). Это эпиграф к сонету “Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі”. Знаменитому «Романсу» (прекрасно переведённому Юлией Новик на французский язык) предпосланы строки из Сюлли-Прюдома:

“Quand sera cette étoile, un jour,

La plus belle et la plus lointaine,

Dites-lui qu’elle eut mon amour,

O, derniers de la race humaine.”

Вот как звучат эти строчки на белорусском:

“Калі аднойчы засвеціцца гэтая зорка,

Найпрыгажэйшая і найдалейшая,

Скажыце ёй, што я кахаў яе,

О, апошнія з роду людскога.”

И, наконец, на русском:

«Когда загорится эта звезда,

Самая далёкая и прекрасная,

Скажите ей, что любил всегда,

О, последние из человеческой расы.» (перевод Н.Д.)

Думаю, что тема влияния французской поэзии на белорусского поэта может стать темой отдельного исследования, как и его переводы из Верлена.

Для своего первого опыта перевода я выбрала это стихотворение:

“Не кувай ты, шэрая зязюля,

Сумным гукам у бары,

Мо і скажаш, што я жывы буду,

Але лепш не гавары.”

С удивлением обнаружила, что при дословном переводе и рифма приходит сама собой, и ритм сохраняется:

“Ne chante pas, mon coucou gris,

Dans les pins ne lance pas ton cri,

Même si tu dis que je vivrai à l’aise,

Il vaut mieux que tu te taises”.

Но также легко легло на французский язык и более сложное по ритму стихотворение Максима Богдановича:

“У небе – ля хмары грымотнай - лёгкая хмара,

Шпарка плыла, і абездве чагосць чырванелі ад жару.

Зліцца жадалі яны, зрабіліся б хмарай магутнай,

Але далёка іх вецер разнёс, наляцеўшы нячутна.”

Вот почти дословный перевод на французский:

“Dans le ciel – près d’une nuée d’orage – une nuée légère,

Rougissant de chaleur et de confusion elles vont de pair,

Voulant se réunir pour devenir une nuée puissante,

Mais un vent inattendu met en lambeaux ces malchanceuses passantes».*

Во второй строчке добавлено: краснея от жары и от смущения; а в последней строчке усилено: *неожиданный ветер разнёс в клочья неудачливых спутниц.

Начало моей работы над переводами стихотворений Максима Богдановича было облегчено наличием многих переводов на русский язык, но пользовалась ими только для уточнения смысла, как подстрочником, никогда не переводила с русского текста, как бы он ни был удачен. Позже, когда поэт и переводчик Сергей Панизьник познакомил меня с поэтом-переводчиком Иваном Бурсовым, белорусом, живущим в Москве, я получила счастливую возможность уточнять значение любого слова или оборота. Глубокий знаток белорусского и русского языков Иван Терентьевич сумел объяснить тонкости своего родного языка, вводил меня в историю белорусского народа, в историю его письменности и литературы. В этом году в Минске издана книга его переводов «Дыхание времени» (Антология белорусской поэзии).

Очень ценные подсказки получила я от белорусской поэтессы Нины Мацяш. В одном из своих двух писем ко мне она подробно раскрыла смысл стихотворения “Скірпуся”: “Героиня… недалёкая простушка со страстным желанием выйти замуж – так сказать, “мы за ценой не постоим”. Поэт вышучивает и это желание, и мужскую неверность, обоюдное легкомыслие, не выпячивая других негативных черт характера. Но и не давая повода невольно посочувствовать селезню, ищущему утешения на стороне, уставшему от сварливой женушки”. Великолепные переводы поэтов «Плеяды», сделанные Ниной Мацяш, укрепляют меня в мысли, что между белорусским и французским языками существует некая внутренняя связь. Не об этом ли писал Максим Богданович в своих «Тэрцынах»?

“Мы любім час далёкі ўспамянуцць.

Мы сквапна цягнемся к старым паэтам,

Каб хоць душой у прошлым патануць.

Таму вярнуўся я к рандо, санетам,

І бліснуў ярка верш пануры мой.

Як месяц зіхаціць адбітым светам, -

Так вершы ззяюць даўняю красой!”

Максим Богданович часто обращался к так называемой твёрдой форме стихосложения: триолет, рондо, сонет, столь любимой французскими поэтами. В самом определении сонета указано: сонет рифмуется чаще всего во французской последовательности. Таков и сонет, посвящённый Погодину. При его переводе удалось с точностью сохранить эту последовательность только в терцетах:

“Вось сімвол твой, забыты краю родны

Зварушаны нарэшце дух народны,

Я верую, бясплодна не засне,

А ўперад рынецца, маўляў крыніца,

Каторая, магутна, гучна мкне.

Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.”

C’est ton symbole, mon pays natal oublié.

L’esprit du peuple d’un coup réveillé,

Ne s’endormira pas infertile.

Pareil à une source qui avance sonore

Il quittera la terre stérile

Pour que l’espace devant lui éclore.»

Казалось бы несложный для понимания и перевода триолет “Калісь глядзеў на сонца я” заставил глубоко задуматься после письма Нины Мацяш: “Смысл триолета: когда-то где-то я созерцал (смотрел, видел) солнце, и оно меня ослепило. Но вечная тема (ночь) уже не пугает, не имеет значения для меня, ведь я видел солнце, и значение имеет только это. Вот почему меня не трогают насмешки света (над моей слепотой): у

меня было солнце, оно ослепило меня, в нём моё счастье. Мне кажется, важней сохранить во всех повторах это j'ai regardé, действие в прошлом и, возможно, уточнить это quand, заменить его: autrefois. Тогда всё станет на свои места в авторском, смысловом напряжении".

Я заменила несовершенный вид глагола на совершенный, заменила нейтральное «quand» на «un jour» , но последнее слово может быть употреблено и для будущих событий. Остаётся вариант: «jadis», возможно, более выразительный; отказалась от предложенного Ниной Мацяш autrefois как слишком длинного слова. Объяснение такого чуткого переводчика заставили и заставляют внимательно перечитывать и осмысливать оригиналы.

«Калісь глядзеў на солнце я,

Мне сонца асляпіла вочы.

Ды што мне цемень вечнай ночы

Калісь глядзеў на сонца я."

И при переводе сохранилась форма триолета:

"Jadis j'ai regardé le soleil,

Le soleil m'a ébloui.

Je m'en fiche de l'éternelle nuit,

Jadis j'ai regardé le soleil."

В поэзии Максима Богдановича меня привлекают прежде всего описания природы, которые, как правило, заканчиваются философскими строчками:

"І роўна мілымі зрабіцца

Здалеюць яркі блеск і цень,

Той дзень што мае нарадзіцца,

І знікшы дзень."

"D'amour envers l'obscurité et la lumière

Mon cœur est plein,

Le jour qui doit naître m'est aussi cher

Quele jour éteint!"

Или такими строчками, полными раздумий:

"Час, калі трэба журыцца

Душой на свежых магілах

Пуста пранёсшыхся днёў."

"C'est l'heure de dire ses prières

Devant les tombeaux des jours

Passés en vain pour toujours."

Как-то, уже давно я переводила с французского довольно длинное стихотворение. Перевод казался мне удачным, но последние четыре строчки переводу не поддавались. С тех пор я часто начинаю переводить с конца стихотворения и только если получается, перехожу к началу. Но стихотворение "Змяіны цар" сразу же привлекло меня своим чётким, образным началом:

"Цішь. Сосны. Елкі. Мох. Кара.

Смерць прыйшла ужо ка мне.

Разгарысь, вячэрняя зара,

У туманнай вышыне."

При переводе последние два слова первой строчки пришлось опустить:

"Il fait sombre. Des pins. Des sapins.

Je vois la mort qui vient...

Brûle, o soleil couchant,

Dans les airs sans fin."

Безглагольные предложения сонета "У Вільні" очаровали своей выразительной простотой. Можно только удивляться тому, что сонет написан более ста лет тому назад, настолько его язык и стиль современны:

“Ліхтарняў свет у сіняй вышыне…

Вітрынамі зіяючыя крамы,

Кавярні, мора вывесак, як плямы,

Анонсы і плакаты на сцяне…

Зялёны семафор… пакгауз… склады…

Заводаў коміны пад цьмой нябёс…

О горада чароўныя прынады!”

Многозначность французских слов позволила прибегнуть к метафоре:

“Les devantures béantes des magasins,

Une mer d’enseignes, d’annoces, d’affiches

Et des placards aux murs sans fin,

Et des lanternes brillantes qui trichent.*

Feuvert... dépôts...hangards à marchandises...

Des cheminées noires sous le noir du ciel...

D’une grande ville des charmes exquises!”

*Дословно: Блестящие фонари, скрывающие недостатки.

Поиски рифмы в конце стихотворения “Слуцкія ткачыхі” дали возможность найти ещё одну метафору:

“Цямнее край зубчаты бора…

І тчэ забыўшыся рука,

Заміж персідскага узора,

Цвяток радзімы васілька.”

“Le contour de la forêt s’obscurcit...

Et la main oublieuse tisse

Au lieu d’un dessin perse

Un bleuet aux palpitants cils.”*

*Василёк с трепещущими ресницами.

Во французском языке не так просто выразить предположение, сомнение, поэтому в стихотворении “Цяжарная” просто поставила знаки вопроса вместо “здаецца… мо…”

“Роўнай, важкаю хадою

Я іду адпачываць.

Ціша вее нада мною,

І, здаецца, штось чуваць.

Мо пачула бусла вуха,

Што над хатаю ляціць.

Мо дзіцёнка сэрца глуха,

Глуха так ва мне стучыць.”

“D’un pas égal, grave

Je vais au lit!

Mais le silence m’entrave :

Quelqu’un vit ici ?

Mon oreille a entendu une cigogne voler

Au-dessus du toit ?

Un cœur d’enfant, un cœur léger,

Batsourdement en moi?”

В басне “Варона і чыж” поиск рифмы привёл к некоторому усилению действия и уточнению характеристики воробья. В оригинале читаем:

“Ну, то ж бо то! Глядзі ж!” –

З ласкаваю гразьбой пракаркала варона

І паляцела стуль далей.”

В переводе на французский язык: ворона ласково побранила этого беднягу и скрылась за горизонтом:

“Tu vois bien! Fais attention! » -

A croassé le corbeau,

En grondant tendrement ce pion,

Et il a disparu à l’horizon!”

Французские слова короче русских, и это создаёт определённые трудности при переводе. При переводе с белорусского, наоборот, французский текст иногда получается значительно длиннее, как, например, получилось со стихотворением “На чужыне”: восемь строчек при переводе превратились в десять.

“Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць.

Маркотна між іх я хаджу адзінок,

Аж бачу – мне сіняй галоўкай ківае

Наш родны, забыты ў цяні васілёк.

“Здароў будзь, зямляча!” Чуць бачны ў даліне

Панура, нявесела шэпча ён мне:

“Успамянем, мой дружа, ў багатай чужыне

Аб беднай, далёкай сваёй старане.”

“A l’étranger

Des fleurs s’épanouissent autour de moi,

Je rôde parmi elles triste et solitaire.

Tout à coup de loin je vois

Un bleuet m’envoyer un signe salutaire.

«Bonjour, mon compatriote!»

A peine visible dans la plaine,

Mélancoliquement il me chuchote:

«Souvenons-nous, mon ami,

Dans ce pays fleurissant

De notre pauvre patrielointaine.”

Однако, далеко не все переводы стихотворений Максима Богдановича, над которыми я работала, получились удовлетворительными настолько, чтобы я решилась их напечатать. Например, перевод стихотворения, посвящённого другу поэта Диодору Дебольскому, остался незаконченным. Не удаётся передать с точностью его ритм. Перевод “Погони”, сделанный по просьбе Алексея Кафки, оставляет желать лучшей передачи этой напряженности, этого жаркого обращения к Родине.

Моя работа позволяла мне всё глубже раскрывать и мелодии и смыслы поэтических произведений Максима Богдановича. Мой опыт говорит о том, что гораздо легче переводить на французский с белорусского, чем с русского, поскольку в белорусском языке чувствуется не только славянская основа, отбросившая ненужные сложные формы, но и латинская подкладка и, позволю себе сказать, латинская логика мышления.

Поэзия вне времени и, как это ни странно звучит, вне языка, точнее, помимо языка. Впрочем, и музыка существует помимо её фиксации, вне нот, как и языки без письменности. Марина Цветаева называла «языком ангелов» (la langue de sanges) нематериальный язык души, «мирового духа» (l’esprit universel), язык самой сущности поэзии (l’essence même de la poésie). Наиболее близким в её личной иерархии языков к «языку ангелов» был немецкий, затем шел русский, а французский занимал уже третье место потому, что французский не способен становиться (devenir), быть неточным (imprécis), неясным (floue), таинственным (mystérieux). Думаю, знай Марина Цветаева белорусский язык, она поставила бы его впереди русского.

Цветы из “Венка” белорусского поэта Максима Богдановича не вянут, его васильки украшают венок европейских поэтов начала двадцатого века. Не удивительно, что хочется переводить и в двадцать первом веке его прекрасные поэтические произведения.

Нина Дебольская
*Москва, лето 2016 года*

Источники:

1.Максім Багдановіч "Вянок". Кніжка выбраных вершоў. Вільня, Друкарня Марціна Кухты.

2. Максім Багдановіч "Поўны збор твораў". Мінск "Навука і тэхніка", 1992.

3. Максим Богданович «Венок». Лирика. Составление и перевод Бронислава Спринчана. Минск, «Юнацтва», 1991.

4. Максим Богданович «Лирика». Нижний Новгород , 2001. Издатель Гладкова.

5. Максім Багдановіч "Вянок". Вершы, паэмы. Мінск, Мастацкая література, 2005.

6. Lettre de Marina Tsvétaeva à Paul Valérie (1937).

Словари:

1. Dictionnare encyclopédique de la langue française. Edition Paris, 1998.

2. Le petit Robert Dictionnaire de la langue française. Paris, 1991.

3. Maurice Grevisse Le bon usage Grammaire française. Paris, 1969.

4. Dictionnaire des difficultés de la langue française. Librairie Larousse, Paris.

5. Nouveau dictionnaire français-russe. Moc, 2004

6. Щерба, Матусевич Русско-французский словарь. Москва, 1988.

7. Беларуска-рускі слоўнік пад рэдакцыяй Крапівы. Масква, 1962.

Мои переводы с белорусского языка на французский были напечатаны:

в двух из трёх книг издательства "Беларускі фонд культуры". Максім Багдановіч ("Слуцкія ткачыхі", "Пагоня"), Мінск, 2011.

в двуязычной книге "У краіне паэтаў" Мінск, выдавец Віктар Хурсік, 2011.

в книге "На ўсе вякі…" поэта Сяргея Панізьніка. Мінск, выдавец Хурсік, 2011.

в книге "Poètes russes, bélarusses et polonais », publié par Khoursik, Minsk, 2013.

в книге Niakliaev Ouladzimir. Poèmes, Minsk, publié par Victor Khoursik, 2016.

в книге Рыгор Барадулін "І свету ўсяму". Мінск, Рымска-Каталіцкая парафія Святога Сымона і Святой Алены, 2016.

**Nina Debolskaja: From the experience of the French translation of Maksim Bagdanovich's poems**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", December 2016, issue 16, pp. 46-57)*

I became interested in working on translations of Maksim Bagdanovich's poems 15 years ago after taking part in the International scientific-practical conference in Minsk Literature Museum of Maksim Bagdanovich. The poet himself, obviously, attracted to French poetry - translated poems of Paul Valery, Emile Verhaeren, Alexis Felix Arveyres and took lines for epigraphs from Boileau, Hugo, Sully-Prudhomme, Sainte-Beuve, Verlaine. My job allowed me to reveal deeper meanings and melodies of poetic works of Maksim Bagdanovich. Very valuable clues in the translation I received from the Belarusian poetess Nina Matyash and from poet-translators Sergey Paniznik and Ivan Bursau. My experience shows that it is much easier to translate into French from Belarusian than from Russian language, as in the Belarusian language there is not only common Slavic basis, discarded the unnecessary complex shapes, but also Latin lining and, dare I say, Latin logic of thinking. Flowers from "Wjanka" (wreath) of Belarusian poet Maksim Bagdanovich do not fade, his vasilki (cornflowers) decorate a wreath of European poets of the early twentieth century. Not surprisingly, that you want to transfer and in the twenty-first century its beautiful poetic works.

**Сяргей Панізьнік: Да 90-годдзя з дня адкрыцця Акадэмічнай канферэнцыі па пытаннях рэформы беларускага правапісу і азбукі (14—21.XI.1926 г.)**

*Я. Райніс: "Беларусаў ахапіла цудоўная нацыянальная ўзнёсласць"*

У Беларусі ніколі не забываліся на Яніса Райніса – латышскага паэта і перакладчыка, драматурга, філосафа і грамадкага дзеяча. Ён нарадзіўся на прыберагу Даўгавы, у тых мясцінах, дзе і ў вуснах яго маці Дарты Плієкшанэ не зжылася мова беларусаў і перадаваліся сыну Жаныню матывы іх векапомнай песеннай творчасці.

Нездарма ён, міністр асветы Латвійскай Рэспублікі, быў запрошаны дэлегатам на Акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу і азбукі, якая праходзіла ў Мінску 14 – 21 лістапада 1926 года. Гэта быў першы навуковы выхад Беларусі на міжнародную арэну, як выказаўся яе ўдзльнік С. Некрашэвіч. У тыя дні беларускія дзеячы навукі, літаратуры У. Ігнатоўскі, С. Некрашэвіч, М. Байкоў, Я. Купала, Я. Колас, М. Грамыка, Б. Эпімах-Шыпіла, П. Бузук, Я. Лёсік і іншыя сустракалі гасцей з розных краін. Сярод іх былі П. Растаргуеў, М. Біржышка, Ю. Галомбэк, М. Фасмер…

Разам з Райнісам выехалі з Рыгі дацэнт Латвійскага ўніверсітэта Э. Блесэ, дырэктар Беларускай гімназіі ў Люцыне У. Пігулеўскі, рэдактар газеты "Голас Беларуса" К. Езавітаў. У вагоне разам з імі аказаўся навуковец і выдавец з Коўна В. Ластоўскі.



Яніс Райніс (крайні справа) на паседжанні Акадэмічнай канферэнцыі.

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №16, снежань 2016* *ISSN 2291-4757*

Райніс некалькі разоў выступаў на канферэнцыі. У Юрмале (станцыя Маяры, вуліца Я. Пліекшана, 5/7 я знайшоў у архівах дачы-музея Райніса і Аспазіі некалькі кніг з дарчымі надпісамі беларускіх пісьменнікаў, фотаздымкі з тых спектакляў, на якіх яму давялося быць у Мінску. Зацікавіў мяне здымак, на якім Райніс сфатаграфаваны разам з Янкам Купалам і пісьменнікамі – з сябрамі літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша".



Ян Райніс і Янка Купала з узвышанцамі.

*На здымку сядзяць злева направа: Змітрок Бядуля, Ян Райніс, Янка Купала, Кандрат Крапіва (наменнік старшыні згуртавання); стаяць: Язэп Пушча, Адам Бабарэка (сакратар), Уладзімір Дубоўка, Пятро Глебка, Кузьма Чорны(старшыня згуртавання "Узвышша").*

І вось на адвароце гэтага здымка я прачытаў аўтограф Янкі Купалы, напісаны лацінкаю:

WelmipavaZanamu
piesniaru Latwii
J. Rajnisu szrzyrapryjazny
Janko Kupala
Miensk 19/XI – 26 h.
(z, s –з верхнімі кропачкамі-пазначкамі)

І яшчэ адзін здымак – цудоўны партрэт Яніса Райніса – быў створаны ў гэты ж дзень. Дзе? У фотаатэлье "Трудколлектив", якое размяшчалася на вуліцы Савецкай, 73. У Літаратурным музеі Янкі Купалы гэтыя здымкі можна ўбачыць. Ёсць там на выставе і звесткі пра ўдзел паэта ў Акадэмічнай канферэнцыі.



Ян Райніс у мінскім фотоатэлье. 19.11.1926 г.

А што можна прачытаць сёння пра работу той Акадэмічнай канферэнцыі? Хіба ў публікацыі С.М. Запрудскага ("Веснік БДУ". Серыя 4. 2004 г. № 3. С.21-26). Справа ў тым, што ўжо ў 1926 годзе Крэмль выказаў незадавальненне прайшоўшай канферэнцыяй. Пазней яна была абвешчана з'ездам беларускіх нацыяналістаў і контррэвалюцыянераў. Многія ўдзельнікі гэтага "нацдэмаўскага генеральнага злёта" былі рэпрэсаваныя. Не ўратаваліся і тры "узвышанцы" са згаданага фотаздымка: У. Дубоўка, А. Бабарэка, Я. Пушча. У 1930 годзе яны былі арыштаваныя як "члены контррэвалюцыйнай арганізацыі.

"Выпраўлены", адцэнзураваны фотаздымак 1926 года я знайшоў у архівах Літаратурнага музея Янкі Купалы. Відаць што хоць і пакалечаны, перамаляваны ад страты трох асобаў, ён павінен быў узгадваць пра гасцяванне высокага латышскага госця ў экспазіцыях створанага Уладзіславай Луцэвіч Купалаўскага музея. А рэпрэсаваныя пісьменнікі былі рэабілітаваныя толькі ў канцы 1950-х гадоў. Тады ж быў пасмяротна рэабілітаваны і абраны на Акадэмічнай канферэнцыі старшынём

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №16, снежань 2016 ISSN 2291-4757*

Графічнай камісіі Вацлаў Ластоўскі, які быў пакараны як агент польскай разведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі.



Змітрок Бядуля, Кузьма Чорны, Яніс Райніс, над ім - Пятро Глебка, Кандрат Крапіва, Янка Купала на пакалечаным цэнзурай здымку.

Лепшым, чым на сапсаваным здымку, выглядае Райніс на карцінах мастакоў М. Гусева “Янка Купала і Ян Райніс” (1959), А. Кроля “Сустрэча. Ян Райніс у гасцях у Янкі Купалы ў 1926 г. (1982). У 2002 годзе рыжскі беларус Вячка Целеш выдаў паштоўку “Я. Купала і Я. Райніс”. На ёй за постацямі народных паэтаў відаць берагі ракі Дзвіны-Даўгавы. Мне гэтая паштоўка нагадвае пра тое, што 21 лістапада 1926 года Райніс з Купалам быў у Віцебску на адкрыцці новага тэатра, які назвалі БДТ-2. Ён ведаў, што ў Віцебску жыла і пахавана яго мама Дарта, пра якую ён пісаў: “Па паданні продкі маці - з вольнае Літвы баяры” (пераклад Р. Барадуліна). Але толькі праз дзесяткі гадоў ад наведання Райнісам гэтага горада на Стара-Сямёнаўскіх могілках была аздоблена магіла маці. Да прыкладу, 140-годдзе з дня нараджэння Я. Райніса мы натхнённа адзначылі каля помніка Дарце Пліекшанэ з роду Грыкоўскіх.

Усяго не пералічыць. Пра Акадэмічную канферэнцыю варта і сёння пісаць, ацэньваючы тыя грандыёзныя зрухі, набыткі ў беларусізацыі дзяржавы. Але і гэтыя згадкі праўдзяць высновы Райніса, выказаныя ім у Рызе пасля вяртання з падарожжа 1926 года: “…беларусаў ахапіла цудоўная нацыянальная ўзнёсласць”.

**Sergey Paniznik: On the 90th Anniversary of the Academic Conference on the Belarusian Spelling Reform, and Alphabet (14-21.XI.1926)**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", December 2016, issue 16, pp. 58-62)*

Academic Conference on the reform of Belarusian spelling and alphabet, which was held in Minsk on 14 - 21 November 1926, has played a crucial role in Belarusization of the State. In addition, in the words of S. Nekrashevich, it was the first scientific output of Belarus in the international arena. Among the delegates were Janis Rainis, Latvian Minister of Education, E. Blesse, Associate Professor, University of Latvia, U. Piguleuski, Director of the Belarusian Gymnasium in Lucyna, K. Ezavitau, Editor of the newspaper "Voice of Belarusian", V. Lastouski, scientist and publisher from Kovno, guests from other countries - P. Rastargueu, M. Birzhyshka, Yu. Galombek, M. Fasmer ... In 1926, the Kremlin has expressed dissatisfaction with conference. Later, it was proclaimed as the Congress of Belarusian nationalists and counter-revolutionaries. Many participants of the "general meeting of national-democrats" were repressed and rehabilitated only in the late 1950s.

*Важнейшыя юбілейныя даты ў жыцьці беларусаў у 2017*

**1155 год Полацку** (у 862 годзе ўпаміnаньне ў “Летапісу мінулых год”)
**500 годдзе беларускаму кнігадруку** (у **1517 годзе Францыск Скарына** надрукаваў першую беларускамоўную кнігу “Псалтырь”)
**100 год** ад пачатку працы **І-га Ўсебеларускага сходу** (сьнежань 1917)

*Важнейшыя юбідейныя даты ў жыцьці беларусаў, студзень - сакавік 2017*

**Студзень**
**5** – **Кастусь Губарэвіч**, беларускі драматург, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (110 гадоў з дня нараджэньня)
20 – **Браніслаў Тарашкевіч** (1892-1937), грамадскі дзеяч, вучоны-мовазнаўца, пісьменьнік, перакладчык (125 гадоў з дня нараджэньня)
**30** – **95 гадоў Інстытуту беларускай культуры** (папярэднік Акадэміі навук БССР)
**31** – **60 гадоў Нацыянальнаму музею гісторыі і культуры Беларусі**

**Люты**
**14** – **Алесь Звонак**, беларускі паэт, драматург, перакладчык, тэатразнаўца (110 гадоў з дня нараджэння)
**17** – **Вітольд Бялыніцкі-Біруля**, беларускі жывапісца-пейзажыст, народны мастак Беларусі і РСФСР (145 гадоў з дня нараджэньня)
**26** – **Уладзімір Карпаў**, беларускі пісьменьнік, крытык, літаратуразнаўца (105 гадоў з дня нараджэньня)

**Сакавік**
**4** – **950 гадоў Нямігскай бітве** (1067)
**7 – Васіль Залатароў**, кампазітар, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (145гадоў з дня нараджэньня)
**8** – **Сяргей Селіханаў**, беларускі скульптар, народны мастак Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі (100 гадоў з дня нараджэньня)
**11** – **Алесь Гарун**, беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч (130 гадоў з дня нараджэньня)

Крыніцы: *http://moiro.by/index.php?option=com_k2&view=item&id=1935&Itemid=14&lang=be*
*https://biblioshtuchki.jimdo.com*

*Наступны нумар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» выйдзе ў сакавіку 2017 года*